# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 29 (1221) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 22 ЛІПЕНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.



Ірына Бярозка 16-гадовай дзяўчынкай разам з бацькамі пакінула Беласточчыну. Ужо амаль 34 гады жыве далёка ад родных мясцін і беларускай гаворкі. Сёлета наведала яна краіну свайго дзяцінства. І гэтыя вершы — вынік той сустрэчы: усхваляванай, шчырай, прыгожай.

# ІРЫНА БЯРОЗКА

## Вершы ад Радзіме

* * *

*Ты край мой радзімы, такі ты адзін.*
*Мне любы твае зімы, вёсны.*
*Любуюся вольным прасторам тваім,*
*Такім неабдымным, раскошным.*

*Качнуўся да берага ціха паром,*
*Паплыў неспяша і нястрымна.*
*Яго ледзь калыша над хвалі рабром*
*Гладзь рэчкі з дзяцінства любімай.*

*За ёю ляжыць, быццам мора, палонь,*
*Дзе травы пяюць з небам сінім.*
*На ім кожны кусцік знаёмы, як дом,*
*З напевам вясёлым, птушыным.*

*А лес за пагоркам шуміць і шуміць,*
*І пахне малінай, суніцай.*
*Ён многа пазнаў за вякі небыліц,*
*І сонца, і бур-навальніцаў.*

*За замшай цяністай дуброў і лясоў*
*Знаёмыя горад і вёска.*
*Мне ветры нясуць шум тваіх каласоў,*
*І шэпт чую клёну з бярозкай.*

*Ты край мой, успеты прасторам сваім*
*У вёсен тваіх стройным гімне,*
*Люблю цябе, родны, я сэрцам усім,*
*Ты самы край дарагі мне.*

* * *

Пабляклі зоркі ў цёмным небе,
На захад ноч ўзмахнула шаль.
І на сырой, вясенняй глебе
Праплыў ў тумане горкі жаль.

Праплыў другім мо непрыкметна,
А мне абмыў з душы ўсю соль.
Запахла ўсё знаёмым ветрам,
Пагас у сэрцы раптам боль.

Вачам не веру, ў дум пытаю:
Ці ж не цудоўны гэта сон?
Ці прад вачамі, мой ты краю?
Ці тваё неба за акном?

І шчасце распірае грудзі,
Гудзе ўсё неба, нібы звон.
Паслухайце, пачуйце людзі,
Сагрэтыя зямлі цяплом.

Ноч ціха сее ў небе зоркі,
Нырае месяц паміж хмар.
Ляском зарослыя узгоркі,
Адвечных мараў мілы дар.

Не йду, лячу, бо ног не чую.
Нібы на крылы вецер узняў.
Стрыгу вачамі даль начную,
Зямлю бы пухам хто услаў.

Вясенні вецер гладзіць грудзі,
Пяшчотна абмывае твар.
Даўно ўжо спяць бяспечна людзі,
Адной пяе мне ўвесь абшар.

Я гэтых песняў адгалоскі
Ў душы таю ўжо колькі год.
Бо толькі так пяюць бярозкі
Ля тых знаёмых мне варот.

Ўжо чую шопат той асокі,
Ён кліча з Супраслю мяне.
Які б не быў ты, шлях далёкі,
Сіл хопіць, каб прайсці цябе.

Фота М. Гайдука

КАВАЛЕР ОРДЭНА АДРАДЖЭННЯ ПОЛЬШЧЫ

# ЗА ЦЯБЕ МЫ НА БІТВУ ІШЛІ...

Вось ужо 35 год нашай народнай дзяржаве. Чарговы юбілей. Са святам Адраджэння, з гэтым светлым днём, у якім 35 год таму назад быў аб'яўлены Маніфест ПКВН, хочацца павіншаваць вас, дарагія чытачы, пажадаць вам шчасця і здароўя і расказаць аб адным з тых людзей, якія са зброяй у руках змагаліся ў дні вайны з нямецкімі захопнікамі і ў першыя гады пасля вайны — з рэакцыяй і бандамі — за новы лад, за народную ўладу, за шчасце нашай краіны.

Хочам напісаць сёння пра Осіпа Юзвюка, які жыве ў Бельску, а працуе ў Орлі на пасадзе кіраўніка масарні. Ён сын малазямельнага селяніна з вёскі Яцэвічы, што ў Бельскай гміне. Восеню 1941 года вывезлі яго немцы ва Ўсходнюю Прусію. Зімою працаваў у лесе. Нязносныя там былі ўмовы. Цяжкая была праца, а яды не хапала. І вырашыў ён адтуль уцячы. Але на другі дзень яго злавілі і пакаралі. Праз тыдзень ён зноў уцякае і зноў пападаецца. Пакаралі яшчэ горш. На трэці раз удалося ўцячы. Начамі ішоў ён два тыдні і ўрэшце дайшоў да роднай вёскі. Вядома, спачатку хаваўся. Было гэта восенню 1942 года. Немцы гвалтам вывозілі людзей у Нямеччыну на прымусовыя работы. Вывезлі і яго бацькоў, і братоў. Осіп тады пачаў гаспадарыць на бацькаўшчыне. Бацька яго быў хворы на астму, няздольны да цяжкай працы, і яго неўзабаве адправілі дамоў. У нядзелю якраз вярнуўся ён у вёску і сустрэўся з сынам. Радасць перапляталася з сумам па астатніх членах сям'і. А назаўтра ў іх хаце з'явіліся немцы, і Осіпа як вінаватага за ўцёк забіраюць

Працяг на стар. 4



# У НАШЫМ СУПОЛЬНЫМ ДОМЕ

Такія ўрачыстасці, як фэстын Беларускага грамадска-культурнага таварыства, што адбыўся 1 ліпеня бягучага года ў Рыбаках Міхалоўскай гміны, астаюцца надоўга ў памяці.

Усё на ім такое свойскае. Нават меспа. Пясчаны пагорачак збягае на паплавец, а з-пад яго сочыцца крынічка. Яшчэ ніжэй вышэзнаю сцяною шуміць гонкая альшына. За ёю ж пакручастым руслам бруіцца рака Нарва.

(Працяг на стар. 3)



*І глыбокая вада ў рацэ Нарве не перашкодзіла ахвотным з Лукі, Баб'яй Гары і іншых вёсак прыйсці на фэст.*

(Працяг са стар. 1)

# У нашым супольным доме

Сядзім мы з начальнікам Міхалоўскай гміны **Зенонам Бязубікам** на купінах пад разложыстай альшынай. Перад нашымі вачыма жоўты ад свежасці насып галоўнай плаціны будучага Семяноўскага мора, кіламетравай даўжыні, перагарадзіў усю даліну ракі. Яна яшчэ прабіваецца цераз вузенькі праход у ім, пырскае ў злосці ва ўсе бакі, як быццам бы прадчувала, што дні яе прыволля палічаныя. Насып звольна, але няўступна апранаецца ў жалезабетонную браню. Недалёкі ўжо той час, калі нараўскія воды разальюцца абшырным вадасховішчам, спецыяльным каналам паплывуць у абмялеўшую рэчку Супрасль, забруяцца ў кранах кватэраў і гарадскіх фантанах Беластока....



*Ганаровыя госці абменьваюцца сваімі ўражаннямі. Справа налева: начальнік Міхалоўскай гміны З. Бязубік, сакратар Міхалоўскага камітэта партыі Я. Азябла, сакратар Прэзідыума ГП БГКТ Я. Зенюк, член Прэзідыума ГП БГКТ В. Склубоўскі, дырэктар СКР у Нараўцы К. Майсеня.*

— Гэтая плаціна абазначае для нашай гміны нейкі парог у цалкам новыя часы, — перарывае маўчанне начальнік. — Яна ажывіць гаспадарчае і грамадска-культурнае жыццё ва ўсёй нашай гміне. Асабліва тут, ва ўсходняй яе частцы. Будзе тут збудавана цэлая меліярацыйная сістэма. Ужо хутка пачынаецца пракладка сюды некалькіх адрэзкаў асфальтаваных дарог. Над вадасховішчам паўстануць розныя аб'екты для адпачынку. Гэта паскорыць развіццё ў навакольных вёсках гадоўлі, агародніцтва, садаводства. Само мястэчка Міхалова, як ведаеце, ператвараецца ўжо ў цэнтральную сядзібу вялікага сельскагаспадарчага камбіната. Хоць са значнымі цяжкасцямі ды спазненнямі, але ўсё ж вырастае на яго ўскраіне спецыяльны пасёлак з васьмю некалькіпавярховымі жылымі карпусамі, ферма для букатаў каля вёскі Пянькі. Непадалёку яе неўзабаве пачнецца пабудова сушарні кармоў. Здаецца, што нарэшце Міхалова будзе мець ачышчальню стокавых вод, перастане атручвацца ўсё жывое ў рэчцы Супраслі. Будаваць яе будзе Беластоцкае аб'яднанне ПГРаў. Ад ачышчальні залежыць далейшае развіццё Міхалова. І з усім гэтым трэба спяшацца, бо зямлі Міхалоўскаму камбінату штогод прыбывае. Цяпер у яго ўладанні 6,5 тысяч гектараў, а ў наступным годзе будзе ўжо 9 тысяч. Што ж, нашыя сяляне старэюць, здаюць сваю зямельку. І ўсюды патрэбны людзі, а іх у нас замала. Нават цяпер камбінат патрабуе 30 трактарыстаў і няма адкуль іх узяць. Новенькія трактары з поўнымі камплектамі машын чакаюць. Нялёгка ўсё гэта даецца... Ды ўсё ж заўважаецца значны зрух і сярод індывідуальных сялян, асабліва ў вёсках вакол Міхалова — Пяньках, Казімераве, Новай Волі. Напрыклад, у Пяньках удала гаспадарыць суполка гадоўлі авечак. Не ўзначальвае сям'я Маркевічаў. На ферме мае яна звыш 200 авечак-матак. Аляксандр Грэсь за сем месяцаў пабудаваў па-навейшаму абсталяваны хлеў на 25 штук быдла. Такі ж аб'ект на 50 штук ёсць і ў Янкі Аксюціка. Такіх гаспадароў у нас прыбывае. І хочацца, каб іх было штораз больш, асабліва вось тут, у Шымках, Навасадах, Ялоўцы, Луплянцы, Юшкавым Грудзе.

Паторачак і паплавец затапляюць па навейшай модзе апранутая моладзь, дарослыя. Тутэйшы грамадскі дзеяч Мікалай Міруць адкрывае ўрачыстасць, вітае гасцей, сярод якіх знаходзіцца сакратар Прэзідыума ГП БГКТ **Янка Зенюк**, кажа, што гэта ўжо 23 фэст БГКТ у Рыбаках.



*На фэстын у Рыбаках прыйшлі і старыя і малыя.*



*Звонкі хор з Ляўкоўскага керамічнага завода пажадаў мець сямейны здымак са сваім дырэктарам Аляксандрам Бандаруком і кіраўніком хору Аляксандрам Лукашуком.*

Сакратар Міхалоўскага гміннага камітэта ПАРП **Яўген Азябла** ў сваім дакладзе прыпамінае асноўныя факты і падзеі з працавітага мінулага 35-годдзя нашай краіны. Член прэзідыума ГП БГКТ Вінцук Склубоўскі расказвае пра самаахвярны ўклад беларусаў ва ўстанаўленне народнай улады і будаўніцтва сацыялістычнага грамадства ў Народнай Польшчы.

І зараз жа пачынаюць спаборнічаць у майстэрстве выканання беларускіх, польскіх, рускіх, украінскіх песень калектывы з Гарадка і Ляўкова. Льюцца звонкія мелодыі пра каханне і дружбу, пра прыгажосць роднага куточка і гераізм партызанаў, пра польскую Віслу-раку, пра беларускі Нёман-бацьку, пра ўкраінскі Днепр шырокі. Потым урываюцца модныя цяперашнія джазавыя і біг-бітавыя рытмы ў выкананні маладзёжнага калектыву з міхалоўскага Дома культуры. І так кожны прысутны пачуў любую для сябе песеньку, матыў, мілае сэрцу слова.

А над усёй урачыстасцю, высока, на фоне густой альховай лістоты над сцэнай лозунг з транспаранта пацвярджаў: „Народная Польшча — наш супольны дом“.

**І. Снарскі,** фота аўтара



*Праграма была багатая, некаторыя і прыселі...*



*І пагорак і паплавец затапіліся госцьмі.*

# ПАЧАЛАСЯ Ў ЛІПЕНІ

(Працяг са стар. 2)

палы, ансамблі „Песняры“, „Верасы“, „Нёман“, шэраг беларускіх артыстаў, мастакоў. П’есы К. Крапівы, А. Макаёнка, А. Дзялендзіка і іншых беларускіх драматургаў знаходзяцца ў рэпертуары польскіх тэатраў, творы С. Манюшкі, А. Фрэдры, Ю. Славацкага, Г. Запольскай і іншых польскіх творцаў ставяцца ў Беларусі.

Значны абсяг маюць беларуска-польскія літаратурныя сувязі, у Беларусі часта гасцююць польскія пісьменнікі, а іх беларускія сябры — у нашай краіне. На беларускай мове выйшлі творы А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, Б. Пруса, У. Бранеўскага, Ю. Тувіма, Л. Кручкоўскага, Е. Путрамента і многіх іншых польскіх аўтараў, у Польшчы ж выдадзены вершы Я. Купалы, трылогія Я. Коласа „На ростанях“, творы М. Танка, Я. Брыля, В. Быкава, І. Шамякіна і шэрагу іншых беларускіх пісьменнікаў. У абедзвюх краінах выйшлі або рыхтуюцца да друку анталогіі паэзіі, прозы, гумару братніх літаратур. За апошнія пяць год толькі ў мінскай кнігарні „Дружба“ прададзена каля 100 тысяч польскіх кніг, а ў Польшчы за аповесцямі В. Быкава — праўдзівая пагоня, іх можна дастаць толькі з-пад прылаўка!

Заўважальна расце ў абедзвюх краінах зацікаўленне жывапісам, графікай, скульптурай, архітэктурай, вырабамі народных умельцаў суседзяў. У Польшчы вялікім зацікаўленнем карыстаецца жывапіс М. Савіцкага, інкрустацыі саломкай і ткацкія вырабы народных творцаў, сучасная архітэктура новага будаўніцтва ў беларускіх гарадах, у Беларусі карыстаюцца папулярнасцю здзяйсненні польскіх скульптараў, мастацкае афармленне тэатральных пастановак, пошукі польскіх ювеліраў, праекціроўшчыкаў моды і г.д.

Словам, нельга цяпер знайсці такую дзялянку культуры, у якой не відаць было б плённага беларуска-польскага супрацоўніцтва і ўзаемнага абмену. І гэта апладатвараюча ўздзейнічае на развіццё культуры абодвух народаў, выхоўвае ўзаемную пашану і спрыяе іх еднасці.

І ў гэтыя ўрачыстыя дні Свята Адраджэння Польшчы, падобна як у нашай краіне, так і на беларускай зямлі ў гонар Ліпнёвага Маніфесту 1944 года адбываюцца многалюдныя сходы, вечарыны і мітынгі польска-савецкай дружбы, гучныя народныя гулянні, цёплыя сустрэчы з польскімі гасцямі, удзельнікамі вызвалення Польшчы. У тэатрах і па тэлевізіі ідуць польскія п’есы, у кіно — польскія кінафільмы, па радыё — польская музыка, у гарадах і мястэчках экспануюцца выстаўкі і фотавыстаўкі, што знаёмяць беларускіх сяброў з дасягненнямі нашай краіны.

І цешыць нашыя сэрцы гэтая дружба.

**М. Гайдук**

## Беларуская літаратура

### НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XXXIX

**„Новая зямля“ ў літаратурнай крытыцы.** Праз некалькі гадоў пасля з’яўлення паасобных раздзелаў „Новай зямлі“ ў друку пачалі паяўляцца крытычныя выказванні аб гэтым творы. У 1913 годзе Багдановіч напісаў наступнае: „З таго, што было надрукавана за апошнія гады, асаблівую ўвагу звяртаюць на сябе (апроч дробных вершаў) вершы-апавяданні „Леснікова пасада“. Ёсць у іх беззаганныя па форме і прыгожыя зраўнанні, і шчырае чуццё, і ўменне самымі простымі спосабамі даць жывы і верны вобраз жыцця“.

Вядомы даследчык беларускай літаратуры Я. Карскі на год да заканчэння паэмы пісаў:

„Новая земля“ — произведение ещё незаконченное, но оно вносит много нового для характеристики поэтического таланта Мицкевича и вызывает надежды, что в авторе его мы увидим вскоре разностороннего белорусского писателя с тонкой наблюдательностью и психологическим анализом“.

Пасля поўнага заканчэння паэмы і выхаду яе ў свет беларускія крытыкі сустрэлі яе з выключнай прыхільнасцю. Аднак некаторыя з іх, асабліва тыя, якія былі звязаны з аб’яднаннем „Маладняк“, бачылі ў паэме ідэі, несугучныя новай рэвалюцыйнай эпосе. З асаблівай варожасцю да „Новай зямлі“ і яе прыхільнікаў аднёсся Л. Жыцень, які напісаў:

„А цяпер павалэндаемся па нашай літаратурнай палісадзе. Нашы рэцэнзенты, хоць маладыя і нехлямежныя, хочуць давесці, што „Новая зямля“ Я. Коласа ёсць манументальны твор і выдатнейшая з’ява ў беларускай паэзіі, буйны твор, які не ведае сабе роўнага твору. Калі глядзець на яго з гістарычнага боку, то ў ім ёсць дзікі народніцка-інтэлігенцкі патрыятызм і ўласніцкія прывычкі, якія не маюць апраўдання. Прачытаўшы, ставім яе з даволі несамавітым настроем на паліцы для кніг побач Шэйна і Федароўскага — вось так на ўсякі выпадак“.

Варожасць крытыкаў да „Новай зямлі“ ўзрастае ў трыццатыя гады. Крытыкі ўбачылі ў паэме нешта рашуча супрацьстаўнае тым працэсам, якія агарнулі тагачасную беларускую вёску. З асаблівай заядласцю атакаваў Коласа і яго паэму Я. Бранштэйн. У дакладзе, прысвечаным трыццацігоддзю творчасці Я. Коласа, Бранштэйн атакаваў „беларускіх эстэцкіх і буржуазна-нацыяналістычных крытыкаў, якія ў дваццатыя гады ўгледзелі ў паэме адлюстраванне „псіхікі беларускага селяніна“. Бранштэйн даказваў, што „Новая зямля“ не мае нічога супольнага з рэвалюцыйным беларускім сялянствам і што гэты твор стаў зброяй у руках „буржуазных нацыялістаў“:

„Ідэйная аснова гэтай паэмы ў корні парочная. Селянін Міхал, які купляе хутар і марыць стаць панам, вядома, у ніякай ступені не з’яўляецца „носьбітам нацыянальнай псіхікі беларускага селяніна“. Народніцкая ідэя „улады зямлі“ не мае нічога агульнага з духам і надзеямі рэвалюцыйнага працоўнага беларускага сялянства.

...У паэме „Новая зямля“, у некаторых лірычных адступленнях Колас гаворыць пра сваю бязмежную любоў да свайго далёкага роднага краю. Ён чулліва гаворыць пра сваё дзяцінства. Аднак гэтая любоў да радзімы ператвараецца ў сваю супраціўлегласць, становіцца зброяй у руках буржуазных нацыяналістаў“.

Спатрэбілася нямала гадоў, каб крытыкі выракліся гэтых недарэчлівых поглядаў.

## З рэпарцёрскіх запісак

### ЗА ВЁСКАЙ ЛІПІНЫ...

За вёскай Ліпіны пачынаецца Белавежская пушча. Вёсачка невялікая і тыповая для Беласточчыны. Рытм яе жыцця вызначае суседняя Гайнаўка, да якой зусім блізка, якая маніць жыхароў Ліпін заробкам на шматлікіх прадпрыемствах і ўстановах.

А вось Ала Панцэвіч разам з мужам пакінулі працу ў Гайнаўцы і, вярнуўшыся на бацькаўшчыну, завялі ў Ліпінах вялікатаварную свінаферму. Яна працавала раней у адміністрацыі, а ён быў дырэктарам адной з гайнаўскіх паслуговых спулдзельняў. Цяпер працуюць на ўласны рахунак і ўдаецца ім гэта зусім нядрэнна, бо людзі гавораць, а гмінныя ўлады ў Гайнаўцы гэта афіцыйна пацвярджаюць, што банкавае конта Панцэвічаў за прададзены жывы тавар кожны год папаўняецца на звыш мільёна злотых.



*

Прабраўшыся (найлепш пехатою) некалькі кіламетраў лясной дарогай, мы выходзім на паляну, дзе леснікі абсталявалі адмысловае турыстычные прыстанішча. Ёсць тут месца для раскладкі вогнішча, можна нават спячы бульбу або падсмажыць каўбасу, ці звычайна прысесці пад гонтавым дашком і палюбавацца паднебнымі елкамі, якія тут вылучаюцца асаблівай красой.

*

Адпачыўшы і пад’еўшы, можам адпраўляцца далей. Зараз жа за гэтым прыстанішчам пачынаецца прыродазнаўчы запаведнік, дзе расце, як кажуць спецыялісты, рэдкі бесшыпулкавы дуб. Тут яго найбольш ва ўсёй Белавежскай пушчы.

Гэты дуб з’яўляецца важным аб’ектам доследаў вучоных-батанікаў з Белавежы і з іншых навуковых цэнтраў краіны.

Фотарэпартаж **Віктара Рудчыка**





(Працяг са стар. 1)

# ЗА ЦЯБЕ МЫ НА БІТВУ ІШЛІ...

у Бельск, дзе здзекваюцца над ім і іншымі на працягу двух месяцаў, а пасля вязуць яго як зняволенага на цяжкія работы на транспартным прадпрыемстве. Калі стаў набліжацца фронт, і немцы, жыхары тых ваколіц, сталі ўцякаць на захад. Осіп разам з 5 французамі і 2 дзяўчынамі з-пад Гайнаўкі ўцякае ў лес. Ідуць яны на ўсход, насустрач фронту. 26 студзеня 1944 года ў лесе спаткаліся з савецкімі разведчыкамі. Усе былі шчаслівыя, што ўрэшце прыйшло вызваленне. Осіпа Юзвюка бяруць у рады Савецкай Арміі. Пасля кароткага абучэння яго накіроўваюць на фронт. На перадавой стаялі ад 15 лютага да 2 красавіка. Пасля пачалося наступленне.

— Без баёў падышлі мы пад Кенігсберг, — гаворыць Осіп Юзвюк. — Шмат нашых салдат узарвалася там на мінных палях. Мог і я там загінуць, — сказаў ён прыцішаным голасам. — А на світанні пачаўся бой. Гэта страшэннае відовішча, якога нельга дакладна апісаць. Сваім „Максімам“ я страляў па ворагу. Раніла тады мяне. На шчасце, раніла не цяжка.

Два тыдні знаходзіўся ў палявым шпіталі. І калі зажылі раны, зноў ён на фронце. Яго часць накіроўваюць на Гэль, які не быў яшчэ здабыты. Вестку аб заканчэнні вайны пачуў ён ужо не на фронце, а ў падафіцэрскай школе, куды яго накіравалі згодна з яго жаданнем.

Закончылася вайна, і ўсё больш салдат ахоплівала дэмабілізацыя. Осіпа Юзвюка таксама звольнілі з арміі і вярнуўся ён дамоў у знамянальны для нашай краіны дзень, 30 чэрвеня 1946 года, у дзень рэферэндума.

У той час неспакойна было на Беласточчыне. Бушавала рэакцыйнае падполле, якое нападала на прыхільнікаў маладой народнай улады, здзеквалася над людзьмі.

Аднойчы вечарам прыйшла ў Стацэвічы бандыцкая шайка. На вуліцы была тады група моладзі. Нехта крыкнуў: „Бандыты ідуць!“ — і ўсе сталі ўцякаць. Бандыты стралялі па ўцякаючых. І прыстрэлілі тады маладую, прыгожую дзяўчыну, Яўгенію Парфенюк.

— Мы бясчынна сядзець не будзем, не дазволім глуміцца над прыхільнікамі народнай улады, мы будзем яе абараняць і возьмемся за зброю, — казалі людзі ў Стацэвічах. У вёсцы ўтварылася ячэйка ППР. На вясковым сходзе 17 чалавек выказала жаданне мець зброю, каб можна было абараняцца ад бандытаў. Сваім кіраўнікоміком (камендантам) усе аднагалосна выбралі Осіпа Юзвюка. Яцэвіцкія армоўцы атрымалі з Бельска 28 вінтовак, 2 аўтаматы і скрынку гранат. Кожную ноч стаялі на варце 4 асобы, двое — у адным канцы вёскі і двое — у другім. На дзве групы былі таксама раздзелены армоўцы, якія спалі з вінтоўкамі і былі ў кожнай хвіліне гатовы даць адпор бандытам. У абароне маладой народнай улады ўзяліся за

Паводле А. Якімовіча

# Залатыя рукі!

У штаб каманды прыбегла Галя. Спяшаючыся, коратка адрапартавала:

— Пры абходзе нашай вуліцы мною выяўлены адзін дзядуля. Яму патрэбна дапамога каманды.

Камандзір штаба, русавалосая Зіна з кароткімі заплеценымі косамі, такімі ж, як і ў Галі, сядзела за сталом. Зіна адчыніла шуфляду і дастала сшытак.

— Прозвішча? — спытала яна, нарыхтаваўшыся пісаць у сшытку.

— Ясюкевіч Іван.

Зіна запісала гэтае прозвішча.

— Адрас?

— 27, кватэра 3.

— Добра, — спакойна сказала Зіна, запісаўшы ўсё як след па форме, — а чаму ты думаеш, што яму патрэбна дапамога каманды?

— Ён стары і часта хварэе, у яго нікога з радні няма. Толькі сын адзін, але ён у арміі служыць.

— Ясна, — перапыніла Зіна. — Каго ж пашлём шэфамі?

— Мяне, Зіначка! — падхапіла Галя. — Ён нават прасіў, каб я часцей заходзіла. Ён мне ўсё-ўсё расказаў, і такі добры-добры дзядулька. Я сказала, што прыйду яшчэ калі прыбраць яму пакой...

— Згодна! — махнула рукою Зіна. — Памочніцай да цябе пойдзе Вера. Ты — старшая.

* * *

На наступны дзень Галя і Вера зранку пайшлі праведаць свайго падшэфнага. Дзядуля ляжаў на канапе, накрыўшыся старым кажушком: апошнія дні яму нездаровілася, і ён стараўся менш хадзіць. Убачыўшы знаёмую дзяўчынку Галю, ён сказаў ласкава:

— Калі ласка, міласці прашу.

Галя адрэкамендавала дзядулю сваю сяброўку Веру і расказала, чаго яны цяпер прыйшлі ўдзвюх.

Дзядзька Іван з увагаю слухаў вясёлае звонкае Галіна шчабятанне, цьмяныя вочы яго на маршчыністым твары жвава заміргалі, у голасе запяршыла. Адкашляўшыся, ён сказаў:

— Вельмі рады. Дзякую, дзяўчаткі, за ўвагу да старога. Ніколі не чуў такіх ласкавых слоў ад чужых дзяцей.

— А мы не чужыя, — пакрыўдзілася Галя, — мы — гарцэркі.

Дзядуля задумаўся, з цікавасцю разглядаючы сваіх гасцей. Дзяўчаткі як дзяўчаткі, звычайныя: адна, Галя, крышку большая, чарнявая, з шустрымі вачыма, і сама такая ж шустрая, другая — яе сяброўка — меншая, круглаватая, з кірпатым носікам. Яна, відаць, спакайнейшая, бо ўсё маўчыць.

— А як гэта разумець? — запытаўся дзядзька Іван.

Галя, як умела, растлумачыла, хто яны такія, расказала пра іх каманду і работу.

— Ці бачыш! — ківаў галавою дзядзька Іван. — Дык значыцца, вы не простыя дзяўчаткі, а гарцэркі?

— Ага, — пацвердзіла Вера і пры гэтым густа пачырванела. — У нас арганізацыя вялікая, на ўвесь горад, — развяла яна рукамі.

Пасля такой размовы дзяўчаткі заняліся дзядулевай гаспадаркай. Памылі падлогу, перачысцілі пасуду і нават згатавалі смачны абед.

— Ай, малайцы! Залатыя рукі! — шчыра цешыўся з малых гаспадынь дзядзька Іван.

Жыў стары ўжо некалькі гадоў адзінокім і ўсё чакаў сына. Яшчэ калі здаровы быў — весялей было: часамі хадзіў пасядзець да суседзяў або рабіў сякую-такую цяслярскую работу. Нідзе на службе ён цяпер не быў па старасці гадоў, а жыў з пенсіі.



Дзяўчаткі падружыліся з дзядзькам Іванам і хутка сталі не толькі яго памочніцамі, але і жаданымі гасцямі. І калі, бывала, дзень-другі хто не наведваў старога, ён непакоіўся і пільна прыслухоўваўся да кожнага шоргату за дзвярыма.

* * *

Аднойчы дзядзька Іван сустрэў дзяўчатак радасная весткай:

— Ад сына ліст! Хутка прыедзе.

— Віншуем, дзядзька Іван! — запляскалі ў далоні Галя і Вера. — Цяпер вы не будзеце адзінокім.

— Але ж, але ж, дачушкі-сакатушкі, хоць я і так з вамі не сірата.

Дзяўчаткі, як звычайна, сталі наводзіць парадак у пакоі і заўважылі, што ў дзядзькі Івана нямытая бялізна.

— Мы памыем, — сказала Галя.

— А ці ж вы ўмееце?

— Умеем.

— Добра. А я вам памагу. Вось і кашулю не шкодзіла б пашыць к сынаваму прыезду...

Дзядуля адчыніў сундук і дастаў адтуль адрэз моцнага корту цёмнага колеру.

— Галя шчыра пахваліла дзедаў корт.

— Але, — паківаў галавою стары. — Вось толькі, дзе іх шыюць, не ведаю.

Дзяўчаткі пераглянуліся між сабою.

— Дайце нам, дзядзька Іван, корт, мы знойдзем швачку, — прапанавала Галя.

— Ай, як добра было б! — узрадаваўся стары.

Дзяўчаткам здавалася, што знайсці швачку справа зусім простая. Але мінула два дні, а швачкі яны так і не знайшлі. Тыя, да якіх звярталіся, згаджаліся ўзяць работу толькі на доўгі час.

На трэці дзень з кортам у руках яны прыйшлі ў штаб каманды.

— Ясна, — сказала камандзір штаба Зіна. — Правільна зрабілі.

— А цяпер што нам рабіць? — няўмела запыталася Галя.

— Пашыць. Самім.

Дзяўчаткі збянтэжана пераглянуліся.

(Працяг на стар. 7)










## Пазнаёмімся

* * *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. А. Кароль, 13. Валя Несцяровіч, 15 гадоў.

* * *

БССР, п/а Азгінавічы, Гродзенскай вобласці, Слонімскага раёна, в. Мельканавічы. Тома Аўсянік, 15 гадоў.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім, зав. А. Кароль, 5, Гродзенскай вобласці. Лена Бандарэц, 15 гадоў.

* * *

БССР, п/а Азгінавічы, Гродзенскай вобласці, Слонімскага раёна, в. Какошчыцы, 42. Інна Сакалоўская, 15 гадоў.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, зав. Мендзялеева, 14, кв. 15. Наташа Юрчук, 15 гадоў.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Ю. Кавалеўскага, 17. Валя Тачоная, 15 гадоў.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чырвонаармейская, 42, кв. 19. Лена Саенкава, вучаніца 6 класа.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Ю. Кавалеўскага, 40. Святлана Пілько, вучаніца 6 класа.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чырвонаармейская, 168. Лена Тарасюк, вучаніца 6 класа.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чырвонаармейская, 219, кв. 1. Таццяна Сачок, вучаніца 6 класа.

* * *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, вул. Чырвонаармейская, 20, кв. 52. Святлана Хох, вучаніца 7 класа.

## АДГАДАНКА



**На малюнку бачыце тры трохвугольнікі, складзеныя з дзевяці аднолькавых палачак. Перастаўце палачкі так, каб у адным вялікім трохвугольніку аказаліся чатыры малыя трохвугольнікі.**

Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, апамяталася я, што ўлезла не ў сваё, але ўжо позна. І цяпер мушу пакутваць за сваю лёгкадумнасць. Было гэта зімой. Я сядзела з сяброўкамі ў кавярні. Да нас далучыліся мужчыны. Адзін з іх адразу звярнуў на мяне ўвагу. Мы разгаварыліся, а адыходзячы, дамовіліся спаткацца ва ўмоўленым месцы. Я пайшла, бо спадабаўся мне гэты мужчына, хоць не малады, але такі ветлівы, сардэчны. Ад таго часу спатыкаліся мы ў мяне ў хаце, бо жыву я адна. Нуртавала толькі мяне адно: жанаты ён, ці кавалер. Спытаць не адважвалася, а ён нічога аб гэтым не казаў. А падабаўся мне штораз больш і закахалася я ўжо па вушы. Тады і даведалася, што жанаты, мае трое дарослых дзяцей. Але сказаў, што кахае толькі мяне і засыпваў мяне гэтымі цудоўнымі слоўцамі. Нягледзячы на ўсё, аб чым я даведалася, я яго з нецярплівасцю чакала кожны дзень. Стаў ён мне самым блізкім. Але як жа фатальна скончылася ўсё гэта. Я зацяжарыла. Даўжэйшы час не гаварыла яму, баялася. Траціць дзіцяці не думала. Калі прызналася Геніку, ішоў ужо чацверты месяц цяжарнасці. Ён і сам ужо гэта заўважаў. Загадаў мне неадкладна ісці да лекара і перарваць цяжарнасць. Я пайшла, хоць страшэнна гэтага не хацела. Але лекар станоўча сказаў, што ўжо позна, што такая аперацыя пагражае майму жыццю. На другі дзень Генік прыйшоў да мяне. Я яму заявіла, што сказаў лекар. Тады ён накінуўся, што так доўга чакала, трэба, кажа, было адразу. Загадаў каб ішла я да прыватнага лекара. І палажыў перада мной грошы. Я ўзбурылася і выгнала яго за дзверы. Увесь вечар і ноч правяла ў слязах і вось пішу аб сваім няшчасці да цябе, проста каб выліць свой жаль. Дзіця нараджу, буду гадаваць, а яго знаць не хачу і нічога ад яго не хачу.

Ніна з Бельшчыны

Ніна! Калі б ты напісала да нас у пачатку вашага знаёмства, можа б удалося нам цябе пераканаць, што такое знаёмства не мае сэнсу, што можа вось так скончыцца, але ўжо позна. Тое, што можам табе параіць, гэта не даравацъ Геніку і, калі народзіцца дзіця, адразу падаць у суд на аліменты. Хай прынамсі маральна і матэрыяльна пацерпіць за крыўду, якую зрабіў табе.

**Сэрцайка**

## Лічбы і факты

...першы ў Польшчы сельскагаспадарчы гурток быў заснаваны ў 1862 годзе ў Пясэчне ў Пазнанскай акрузе па ініцыятыве Юльяна Кразевіча. **(яц)**

## Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ:** І. і З. маюць пляц, які з'яўляецца ў 3/4 уласнасцю І., а ў 1/4 — З. На пляцы пабудаваны дом, у якім у адным канцы жыве І., а ў другім З. Яны хацелі б ліквідаваць супольную ўласнасць, але паміж імі няма згоды, як падзяліць пляц і дом. І. хацеў бы сплаціць З. за яго 1/4 частку. З. не згаджаецца выйсці з свайго памяшкання і прапануе падзяліць пляц і дом так, каб граніца прабягала па сцяне, якая аддзяляе іх памяшканні. Ці можа І. у сувязі з тым, што яго ўдзел у супольнай уласнасці з'яўляецца ў тры разы большы, чым удзел З., дамагацца, каб прызналі яму цэлую нерухомую маёмасць за сплатай З.? Ці можа суд падзяліць дом і пляц напалавіну?

**АДКАЗ:** Пры ліквідацыі супольнай уласнасці нерухомай маёмасці суд у першую чаргу павінен высвятліць, ці існуе магчымасць яе падзелу. Пры падзеле не мае значэння тое, на якія ўдзелы маюць права паасобныя супольныя ўласнікі. Пад увагу бярэцца гаспадарчая мэтазгоднасць падзелу. Калі акажацца, што падзел пляца і дома магчымы і на падзел дадуць згоду гарадскія ўлады, можа быць маёмасць падзелена і пароўну, калі якраз гэткі падзел акажацца мэтазгодным з гаспадарчага пункту гледжання. Зразумела, што пры гэтакім падзеле З. змушаны быў бы даплаціць І., паколькі атрымаў бы больш, чым яму прыслугоўвае. Калі б такі падзел быў немагчымы, або не было згоды ўладаў на падзел, суд мусіў бы прыдзяліць нерухомую маёмасць аднаму, абавязваючы яго да сплаты другому. Прытым суд не меў бы абавязку прыдзяліць маёмасць І. Прыкладам, калі б ён быў адзінокі, а З. меў вялікую сям'ю, праўдападобна, маёмасць была б прыдзелена З.

## Куток практычных ведаў

## МОДНЫЯ ПАЯСКІ





## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Высылаю я вам сон, які вы друкавалі год таму назад. Я пісаў так: „Сніцца мне, што варожыць мне варожка. І гаворыць, што я хутка ажанюся з цёмнай бландзінкай. Тут паказваецца ўва сне дзяўчына, якую я нядаўна сустрэў. І варожка паказвае на яе: „Гэта будзе яна! Якія ж вы на сябе падобныя!" Астроне! Няўжо гэта праўда?" А вы адказалі мне на мой сон: „Калі гэтак сказала варожка, чаго ж ты яшчэ ў мяне, Астрона, пытаешся? Жанчыны ж заўсёды маюць рацыю". І вось гэтая дзяўчына мяне пакінула. Ад таго часу сніліся мне такія сны:

1. Нібы прыйшоў яе бацька да нас у хату, лёг на ложак і кажа: „Не перайма́йся! Усё будзе добра".
2. Нібы я ў іх хаце і расказваю сваю бяду. Выйшаў я ўжо ісці ад іх, а яе мама кажа: „Як ты так яе любіш, то ажэнішся з ёй". Я пацалаваў за гэта яе ў шчаку.
3. Быццам я ў вялікім доме. Там многа дзяўчат. Я іду да яе (бо ведаю, што яна там) і нясу гарэлку. Уваходжу ў пакой, а яна ляжыць на ложку. У яе забінтаваныя рукі. Кажа, што яна іх адмарозіла. Я гарэлку аддаў нейкім дзяўчатам, а яна мне расказвае, што атрымала новую кватэру, і я быццам тую кватэру бачу.
4. Нібы маё вяселле. Усе госці сядзяць быццам у чужой хаце, а маладой няма. Я кажу, што я не жанюся яшчэ. Усе аднак кажуць, што я ажанюся з гэтай. Гэта пра яе казалі, а я ім не веру.

А што вы, Астроне, на гэта, гледзячы па снах?

Коля

**Коля!** Я ўжо не раз пісаў, што Астрон не мае ўплыву на ход падзей. Ён можа нешта толькі меркаваць па снах сваіх чытачоў і падказаць адказ на гэтыя сны. У мінулым годзе не хацелася мне цябе непакоіць і таму падумаў я, што лепш для цябе будзе, калі паверыш той варожцы. Жыццё ж і так дыктуе сваё. А так наогул то сны найчасцей чытай наадварот. І тое, што не выйшла з той дзяўчынай тады, ды не выйдзе, бадай, цяпер, пацвярджаюць твае наступныя сны. Усе прадказваюць табе (у снах, зразумела), што ты не павінен пераймацца і ажэнішся з ёю. А будзе, бадай, усё наадварот. І хаця не выходзіць яна з тваіх думак, то, здаецца, здрадзіла табе ў каханні. Аб гэтым сведчыць тая яе новая кватэра. Аб сварцы паміж вамі сведчыць таксама вяселле, на якім тваёй маладой мела быць гэта дзяўчына.

**Астрон**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Колеў нахіліўся за ліхтарыкам і пачаў шукаць пісталет Валодзі. Гэта яго загубіла. З-за паўразбуранай сцяны мільгануў цень. Між абгарэлых дамоў гучным рэхам пракацілася некалькі стрэлаў.

Рынгель пасвяціў ліхтарыкам і ўпэўніўся, што абодва мёртвыя. Ён з адабрэннем агледзеў рану на грудзях Валодзі. Такі ўдар мог нанесці толькі добра падрыхтаваны разведчык. Цяпер ён ведаў, кім быў Колеў. І быў вельмі задаволены, што ўсё так выдатна скончылася.

Жыццё ў Кенігсбергу паступова ўваходзіла ў норму. Жыхарам, што прывыклі за гэтыя дні да грукату гармат, траскатні кулямётаў, выбухаў бомб, пажараў, дыму, гэта цішыня спачатку здавалася крыху дзіўнай. І калі б не руіны, у якіх ляжаў горад, прышэлец не падазраваў бы аб трагедыі, што разыгралася тут некалькі дзён назад.

На Самбійскім паўвостраве ўсё яшчэ абаранялася амаль двухсоттысячная нямецкая армія, а хутчэй разбітыя часці розных армій і груповак СС. Гэта былі галаварэзы, гатовыя на ўсё. У Кенігсбергу хадзілі чуткі, невядома кім пушчаныя, што неўзабаве армія прынясе на сваіх штыках свабоду гораду. Гаварылі, нібы гаўляйтэр Эрых Кох рыхтуе контрнаступленне, якое не толькі вызваліць горад, але сваім вастрыём уклініцца глыбока ў тыл савецкіх войск і адрэжа іх, знішчыць Савецкую Армію і перацягне чашу перамогі ў карысць Германіі. Але для жыхароў Кенігсберга вайна закончылася 9 красавіка 1945 года, і мала хто верыў у гэтыя байкі і цьмяныя надзеі нацыстаў, якія разбягаліся, нібы пацукі з разбітага карабля.

Рускія ўжо стварылі свой адміністрацыйны апарат, забяспечылі насельніцтва работай, наладзілі пастаўкі прадуктаў харчавання. Разбіралі барыкады і расчышчалі вуліцы, зносілі дамы, якія маглі абваліцца.

### МІСІЯ ПРАФЕСАРА

У адзін веснавы дзень у кватэру дырэктара Кенігсбергскага музея Альфрэда Родэ пастукаўся незнаёмы пажылы мужчына. На парозе доктар убачыў чалавека, якому было ўжо далёка за пяцьдзесят. Ён быў у цывільным, але на плечы быў накінуты афіцэрскі шынель: вечар выдаўся халодны.

— Маё прозвішча Брусаў, — адрэкамендаваўся ён гаспадару па-нямецку. — Я мастацтвазнаўца, прафесар універсітэта...

— Так, так, ведаю, — паспешліва запэўніў яго доктар Родэ. — Я ведаю вас па выступленнях і кнігах. Рады пазнаёміцца. Калі ласка, пан прафесар, праходзьце. Прашу вас у мой кабінет, — запрасіў ён савецкага калегу. — Эма, — звярнуўся ён да жонкі, — зрабі нам кофе, — і тут жа дадаў: — зразумела, калі яшчэ што-небудзь засталося. Бачыце, пан прафесар, у гэтыя апошнія гады кофе быў у нас на вагу золата.

Прафесар Брусаў усміхнуўся і выцягнуў з партфеля бляшаначку.

— Калі ласка, прыміце гэты сціплы падарунак. Як калега ад калегі, — хутка дадаў ён, заўважыўшы, што доктар збіраецца адмовіцца. — Я таксама ведаю вас, цаню як віднага вучонага, лепшага ў свеце знаўцу янтару і як чалавека бездакорнай рэпутацыі. Я чытаў вашы артыкулы, якія лічу фундаментальнымі работамі на тэму аб янтары. У мяне нават ёсць з сабой ваша кніжка „Кенігсберг". Выдатны даведнік па гістарычных помніках гэтага горада. Каштоўная кніга, асабліва цяпер яна можа мне спатрэбіцца.

Доктар Родэ сумна ўсміхнуўся.

— Даведнік па горадзе, якога ўжо няма, — сказаў ён. — Вы ж ведаеце, што ў канцы лета мінулага года два англа-амерыканскія налёты знішчылі горад на 70 працэнтаў. Такі прыгожы горад, у якім столькі каштоўных помнікаў старадаўнасці. Усё ператворана ў руіны, згарэла, загінула. Хіба гэта не злачынства? — спытаў ён у самога сябе, але, відаць, успомніўшы, што ён гутарыць з чалавекам, саюзнікам тых, а развязалі гэтую разбуральную вайну яго суайчыннікі, ён тут жа дадаў: — Я заўсёды быў супраць вайны, якая нясе разбурэнне, галечу і незлічоныя страты ў галіне культуры. Гэтыя два налёты былі расплатай за варварскія налёты нашай авіяцыі на Англію, за бамбардзіроўку Лондона снарадамі „фау". Але чаму яны не разбамбілі прамысловых раёнаў? Завод заўсёды можна аднавіць і пабудаваць яшчэ больш сучасны, а гэты горад, у якім было столькі гістарычных помнікаў, ужо ніхто не адбудуе, ніхто не створыць каштоўных твораў мастацтва. Гэта беззваротная страта для чалавецтва.

**(Працяг будзе)**

# САМАРОДАК

Мастак Кубел, па агульнаму прызнанню, быў безнадзейнай пасрэднасцю.

Таленту ў яго не было. Чаго няма, таго няма.

Адкінуты мастацтвам, ён перакінуўся на бухгалтэрыю. Але і тут не прыжыўся.

Не апраўдаў ён надзей і як бібліятэкар. Блытаў прозвішчы аўтараў і чытачоў.

Даволі доўга Кубел шукаў сваё месца ў жыцці. Знайшоў яго, калі нейкі пан Ручка прапанаваў яму выступаць у цырку.

— Будзеце ездзіць на роліках, — сказаў ён.

— На чым? — удакладніў Кубел.

— На роліках, — паўтарыў Ручка. — Вы ніколі не бачылі ролікаў?..

— Бачыў, але ніколі не думаў, што на іх можна ездзіць.

— Можна, можна. Заўтра і пачнем.

Першае выступленне Кубела было сенсацыйным. Ездзіць на роліках яму давялося па стале. Што ні крок, ён ляцеў са стала і зарываўся носам у апілкі. Падніма́ўся, ускарабкваўся і тут жа грукаўся зноў.

Публіка выла ад захаплення.

Пад канец выступлення ён настолькі выдыхся, што ўніфармістам давялося выцягнуць яго з арэны за ногі.

Папулярнасць Кубела расла ад прадстаўлення да прадстаўлення. Неўзабаве ён стаў гвяздом праграмы. Дастаць білет у цырк без знаёмства стала немагчыма. У горадзе толькі і гаварылі аб фенаменальным коміку на роліках.

— Цудоўны камічны талент! Фізіяномія па-зверску засяроджаная, а ногі, як са студзіны. Надзвычайнае! Вялікі самародак!

Рэцэнзенты прадказвалі яму сусветную славу.

Але прадказанні не здзейсніліся. З часам Кубел навучыўся ездзіць на роліках. На жаль, рабіў ён гэта зноў даволі пасрэдна...

Цяпер ён працуе ў таварным доме. У аддзяленні спорттавараў.

**Анатоль Патэмкоўскі**



— *Здаецца, увайшлі ў слой палеаліта.*



**...Яму нічога не заставалася рабіць, і ён нічога не рабіў.**

# НІЎКА



## ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!

*Калі трымаецца-той задзіраецца*

### ДАЧА

*Нарабіла жонка плачу:*
*„Пабудуй мне, — кажа, — дачу.*
*Не патрэбен цёплы Крым —*
*Мы на дачы загарым“.*

*Будаваць то будаваць,*
*Але дзе чаго дастаць?*
*Стаў я ездзіць, стаў хадзіць,*
*Выпівох у бар вадзіць —*
*Выпіваюць, абяцаюць,*
*Хоць і шыш сваё што маюць.*

*Мой „удалы“ падыход*
*Аплаціўся цераз год:*
*Першы сябра даў мне дошкі,*
*А другі — цэменту трошкі,*
*Трэці — лес,*
*Чацвёрты — латы,*
*Даставаў участак пяты...*
*І сказалі: „Што маўчыш?*
*Стаў па-новаму барыш!“*
*Першы выпіў два кілішкі,*
*А другі без перадышкі*
*Шклянкі тры перакуліў.*
*Вось дык піў!*

*Трэці сябра кажа: „Мне*
*Таго хопіць, што на дне!“*
*Ну, а дно было дзяжы.*
*Не кажы!*

*А чацвёрты — штурх у бок:*
*„Па Марусін паясок!“*
*Паяскоў тых не злічыць.*
*Ліць не ліць?!*
*І сядзіць, нібыта цвік.*
*А пасля пад стол*
*Кувырк!*

*Жонцы мову адняло.*
*Во было!*
*Шэпча мне:*
*„Што гэта значыць?“*
*Я ж кажу:*
*„Будуем дачу!..“*

**Кастусь Сіневіч**

З „Весніка Задрыпоніі“

### ПЕРАМОЖНАЕ ПАРАЖЭННЕ

Хоць нашы футбалісты і ўступілі з лікам 0:3, але затое пасля дакладных удараў нашых снайпераў мяч двойчы пападаў у варатара сапернікаў, тройчы трапляў у бакавыя стойкі, адзін раз у крэставіну варот і сем раз прасвісцеў над самай перакладзінай. А так званыя пераможцы за ўсю гульню змаглі нанесці на нашых варотах толькі тры ўдары.

### СТАРШЫНЯ АГЛАБЛЕВІЧ ПЫТАЕЦЦА

Ці падмочвае рэпутацыю сухое віно?



*Без слоў.*

### А ШТО ТУТ ДЗІЎНАГА?

Тата, вяртаючыся з камандзіроўкі, паслаў дадому тэлеграму: „Сустракайце“. А яе прынеслі на другі дзень пасля прыезду.

— Ды й доўга яна йшла, — абурыўся тата.

— А што ж тут дзіўнага, — умяшаўся ў размову малы Міколка. — Ты ехаў, а яна йшла, таму і адстала!

### У ЗАДРЫПАТЭЛЬЕ

Кліент да загадчыка Чык-Чыкевіча:

— Зрабіце, калі ласка, левую штаніну карацейшую за правую, бо ў мяне нага...

— А скардзіцца не будзеце?

— Не, не буду.

— Тады прашу за мною. У нас вялікі выбар такіх штаноў. Хоць адзін заказчык прыстойны трапіўся.

### РЭШТУ ЖОНКА СКАЖА

Пытае Кастусь кума:

— Што ты говорыш жонцы, калі прыходзіш дадому, ледзь трымаючыся на нагах, а ў кішэні пуста?

— Не ведаю, — адказаў кум, — а што трэба гаварыць?

— Трэба гаварыць: „Добры вечар“, а рэшту жонка сама табе скажа.



### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Перадайце мне, калі ласка, гарчыцу, — звяртаецца да суседа па століку наведвальнік рэстарана.

— Яшчэ чаго! Вы, відаць, прымаеце мяне за афіцыянта?

— О не, мсье, усяго толькі за выхаванага чалавека.

*

Ён — ёй:

— Па-мойму, у апошні час вы крыху папаўнелі.

— Божа, ці ж такія рэчы гавораць даме?

— Прашу прабачэння, — зусім сканфузіўся ён, — але я думаў, што вы ўжо ў такім узросце, калі гэта не мае значэння.

*

Раз'юшаны муж убягае ў дом і крычыць жонцы:

— Няшчасная, мне ўсё вядома!

Жонка. не трацячы прысутнасці духу, адказвае:

— Усё? У такім выпадку адкажы, калі нарадзіўся і памёр Кромвель.



**Made in Zadrypanka.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе З. К. з Беластока змяшчаем песню*

## NIEBO Z MOICH STRON

**słowa: Krzysztof Dzikowski**
**muzyka: Seweryn Krajewski**
**śpiewają „Czerwone Gitary"**

Jest w oczach twych
kolor nieba z moich stron,
jest uśmiech dnia,
cienie liści, które drżą.
Jest w głosie twym
echo naszych słów sprzed lat,
są szepty traw,
które giął lekki wiatr...

Więc zabierz mnie
do tamtych miejsc,
gdzie pędził czas
w rytm naszych serc,
a każdą z chwil
chciał oddać nam:
tę dla mnie, dla ciebie,
tę dla mnie, dla ciebie,
więc zabierz mnie
pod tamten dach,
gdzie pachnie chleb,
gdzie cisza gra,
a każda z nut
brzmi tylko nam...
ta dla mnie, dla ciebie,
ta dla mnie, dla ciebie, nam.

Jest w dłoni mej
miejsce na twą małą dłoń.
Jak zamknąć mam
nasze życie w klatce rąk?
Jest w myślach mych
miejsce wspomnień, które znasz,
bo często tak
gościsz w nim, często tak...

Więc zabierz mnie...

### ПРАДБАЧАННЕ

— Пятро сказаў, што калі я не выйду за яго замуж, ён здурэе.

— Глупствы! Учора ён папрасіў рукі ў мяне.

— А я што казала?!

## ГУМАР З БАРАДОЙ

### БАБА НЕ БЯДНЯЧКА

Ідзе вуліцаю вёскі бабуля, а пад рукою боты нясе.

— Чаму, бабуню, басаногі ідзеце? — пытаюць людзі.

— Не люблю абутаю хадзіць.

— А боты навошта пад рукою?

— Каб людзі не падумалі, што я бядначка.

# КУРЁЗЫ

### ХТО ЁСЦЬ ХТО СЯРОД ПРЫВІДАЎ

У апошні час у англійскіх газетах пачалі сустракацца аб'явы: „Прадаецца гасцініца з усім неабходным, уключаючы прывід“. Або: „Прапануем катэдж, вядомы тым, што каля яго перыядычна з'яўляецца здань конніка“. Попыт на прывіды расце. Газета „Нью-Йорк таймс“ піша, што, калі ў Вялікабрытаніі праводзілася спецыяльнае апытанне насельніцтва, каля 6 мільёнаў чалавек заявілі, што яны сваімі вачыма бачылі прывідаў.

І вось, каб англічанам было лягчэй арыентавацца ў гэтым зборышчы духаў, там была нядаўна выдадзена кніга „Хто ёсць хто сярод прывідаў“. Яе складальнік — Джэк Хэлем, у мінулым адзін з рэдактараў „Сандэй тайм“, уключыў у свой даведнік 500 насельнікаў свету ценяў. Там можна знайсці чалавека Бронзавага веку, духаў вядомых грабежнікаў, што кончылі свой век на шыбеніцы, каралей і нават нейкага пана ў карцяжку, які з'яўляецца, як кажуць, час ад часу на адной з узлётных дарожак лонданскага аэрадрома „Хітроў...“.

### СТРЫМАЎ СЛОВА

Бетховен у Дрэздэне слухаў досыць няўдалую оперу кампазітара Паера „Элеанора“. Калі пасля Паер спытаў, якой думкі Бетховен пра оперу, той сказаў:

— Ваша опера мне настолькі спадабалася, што я, мабыць, напішу да яе музыку.

І Бетховен стрымаў слова: ён напісаў на той жа сюжэт оперу „Фідэліо“.

## МІЖ НАМІ

**Адным для таго, каб іх зразумелі, дастаткова загаварыць, іншым — змаўчаць.**